


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

13 красавіка 2001 года
№ 15 (312)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

*Каталікоў і праваслаўных віншуем са святам Вялікадня!*



## На Доме культуры перакрываюць дах

**МАЛАДЗЕЧНА.** З красавіка на будынку Дома культуры пачалі перакрываць дах.

Задача на гэты месяц – зрабіць "клубную" частку (дзвесце з лішкам квадратных метраў). У сакавіку большай часткай разбіралі сцены 245 кубічных метраў, 115 "кубоў" паклалі нанова. На будоўлі занята 33 чалавекі. З іх 12 – былыя беспрацоўныя. Апошнія працуюць на роўных з будаўнікамі: і на кладцы, і на разборцы сцен.

На будоўлі ёсць вакансіі. Як сказаў прараб будоўлі **Іван Русак**, гэта, у першую чаргу, муляры і бетоншчыкі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кухто ў Валожын не прыехаў

**ВАЛОЖЫН.** Сарвалася паездка ў Валожын вядучага тэлегульні БТ "Адысея каманды.Кухто". На мінулым тыдні планавалася, што "тэлезорка" правядзе 2 гульні: са школьнікамі і выпускнікамі. Пераможцаў гульняў запрашалі на здымкі ў тэлеверсіі гульні. Білеты на "шоу Кухто" каштавалі ад 3 да 5 тысяч рублёў. Валожынцы купілі ўсяго 2 штукі, таму вядучы ў Валожын не прыехаў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Свірскі ліцэй можа змяніць статус

**МЯДЗЕЛ.** У свірскім сельскагаспадарчым ліцэі адбыўся "круглы стол" на тэму "Прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё рэгіёнаў Беларусі".

Аб'ектам правядзення мерапрыемства ліцэй абралі таму, што ён займае адметнае месца ў рэспубліцы па арганізацыі і падрыхтоўцы кадраў для прадпрымальніцтва ў сельскай мясцовасці.

Бралі ўдзел спецыялісты з прадстаўніцтва ААН, міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, адказныя асобы шэрагу райвыканкомаў. Спадабаліся ім ліцэйская пякарня, іншыя аб'екты.

Па выніках пасяджэння свірскаму ліцэю, магчыма, прысвояць статус "цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кветкі ў памяць Г. Карпенкі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Тут прайшоў семінар па пытанях кааліцыйнай дзейнасці для прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў дэмакратычнага кірунку рэгіёна. У ім удзельнічала больш за 20 чалавек.

Удзельнікі семінара ўшанавалі памяць былога старшыні гарвыканкома Маладзечна **Генадзя Карпенкі** хвілінай маўчання і ўсклалі кветкі да памятнага знака "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі", да ўсталявання якога ў 1993 годзе спрычыніўся і сам Г. Карпенка.

**Эдвард БАЛАНЧУК.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 14 красавіка**

**Мінск**
-1 – 3°С (уначы)
4 – 11°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
-1°С (удзень)



**Нядзеля, 15 красавіка**

**Мінск**
-2 – 4°С (уначы)
9 – 10°С (удзень)



**Вільня**
-3°С (уначы)
7°С (удзень)



# У цягніку бомбы не было

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у горадзе каля 22 гадзін паднялі па трывозе асабовы склад аддзела ўнутраных спраў на транспарце (АУСТ). Існавала верагоднасць, што цягнік Гродна-Масква, які праз некалькі хвілін прыбываў на станцыю, замініраваны.**

Званок з пагрозай паступіў у Мінск, а адтуль ужо пра гэта паведамілі ў дзяжурную часць АУСТ Маладзечна. Да прыбыцця цягніка ачапілі вакзал. Падагналі дызель, куды эвакуіравалі пасажыраў. А сам цягнік адагналі ў бяспечнае месца (па нашых звестках, у раён Насілава). Праз гадзіну з Мінска прыбыла група размініравання "Алмаз", якая, сумесна з супрацоўнікамі АУСТ, праверыла цягнік.

Як заўважыў намеснік начальніка транспартнай міліцыі **Аляксандр Зінюк**, у аперацыі бралі ўдзел каля пяцідзесяці чалавек.

Пасажыраў з асабістымі рэчамі таксама выбарачна правяралі. У выніку нічога падазронага не знайшлі. Цягнік на станцыі затрымаўся на 3 гадзіны 11 хвілін.

"Тэрарыста", які тэлефанаваў, па стане на ўчарашнюю раніцу не знайшлі. Калі знойдуць, яму давядзецца кампенсаваць урон, які цяпер падлічваюць. Пагражае і турэмнае зняволенне на тэрмін да 5 год.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**У аўторак вечарам пасажыраў цягніка Гродна-Масква эвакуіравалі, каб праверыць цягнік на наяўнасць выбуховага прыстасавання.**

# Вашае стаўленне да суботнікаў?



**Аляксей Урублеўскі, азеляняльнік:**
– Абавязкова патрэбныя. Для таго, каб горад быў прыгожы, прывабны і прыгожы. Інакш усё ператворыцца ў вялікую сметніцу.



**Вольга Сенакосава, сакратарка:**
– Адмоўная стаўлюся да іх. Вуліцы павінныя прыбіраць камунальныя службы. Хіба дворнік прыйдзе на маё рабочае месца? Хаця калі трэба, значыць – трэба.



**Працяг на 2-й стар.**

**Юрый Сіцько, намеснік галоўнага ўрача ГТМА:**
– Як казалі Ільф з Пятровым, "хопіць змагацца за чысціню вуліц, давайце іх падмятаць!" Суботнікі ўспрымаю як спадчыну мінуўшчыны. Кожны мусіць займацца сваёй справай.

# Шэсць праблем маладзечанскага парку культуры і адпачынку

**МАЛАДЗЕЧНА. У снежні гарвыканком зацвердзіў комплекс мерапрыемстваў па развіцці гарадскога парку на наступную пяцігодку. У параўнанні з мінскімі "калегамі", парк выглядае бедным сваяком. Прычым, адстае не ў знешнім выглядзе (тэрыторыя больш-менш дагледжаная), а ў інфраструктуры. Старыя атракцыёны, гандаль тут ладзяць толькі па вялікіх святах, прыбіральні няма — жыхары і нават госці горада гэта ведаюць.**

Дырэктар Ігар Грабоўскі гаворыць, што першым крокам пасля зацвярджэння праграмы развіцця стала адхіленне заяўкі на 2001 год на набыццё аўтапоезда. Бюджэтныя сродкі і так у дэфіцыце.

А праблемы ў парку можна пры жаданні налічыць, што пальцаў рук не хопіць. Вось некаторыя з іх.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Будучыня маладзечанскага гарпарку выглядае незразумелай. Нібы ў дыме гэтых вогнішчаў.**

### Тэхнічны стан атракцыёнаў

Па дакументацыі тэрмін эксплуатацыі атракцыёнаў — 10 год. Амаль усе выпрацавалі гэты тэрмін. Праз год гэта зробяць і астатнія. Абыходзіцца прафілактычнымі мерамі.

Трэба штогод рабіць прафілактычны агляд. Гэтым займаецца "Белатамнагляд", які мае ліцэнзію. За праверку аднаго атракцыёна фірма бярэ мінімум 70-150 долараў. У парку 12 атракцыёнаў.

### Інфраструктура

Летась ад аднаго з магазінаў выязджаў па выхадных гандлёвы пункт. Гавораць, нерэнтабельна. У тым жа магазіне "на стацыянары" купляюць больш.

Цікава, чаму ў Мінску гандаль рэнтабельны, а ў нас — не? У мінулую нядзелю — 8 красавіка — быў спякотны дзень, а пунктаў з марожаным ці напіткамі ў парку не назіралася.

### Танцпляцоўка

У Мінску львіную долю даходаў прыносяць дыскатэкі. Можа, замест Дома культуры хаця б танцпляцоўку дабудаваць?

### Аднаўленне знешняга выгляду парку

Адміністрацыйнаму будынку парку сёлета спаўняецца сорак адзін. Ён патрабуе капітальнага рамонту. Вырашылі пабудаваць двухпавярховы комплекс (дэпо для аўтапоезда, касы, більярд, тэнісная зала, клубы, адміністрацыя). Цяпер няма грошай, каб заплаціць за праект гэтага будынка. А будаваць яго метадам народнай будоўлі, на нашу думку, цяжка гэта будзе. Акрамя гэтага, няблага было б кожныя 2-3 гады купляць 1 атракцыён плюс "дробязі": устаноўка новых спартыўных снарадаў, прыбіральняў, рэканструкцыя баскетбольнай пляцоўкі, паркавай гаспадаркі, дарожак з асфальтавым і плітачным пакрыццём і інш.

### Канкурэнты

Летась "дапамог" чэшскі "Лунапарк". Прыехаў у самы сезон — ліпень-жнівень — і забраў амаль усіх кліентаў. Парк застаўся "на бабах", не выканаў гадавы план па платных паслугах. Сёлета "Лунапарк" прыедзе таксама, але ў іншы тэрмін. Мяркуецца, што гэта будзе пачатак восені.

### Дзе ўзяць на ўсё грошы?

■ **«В ПАРК ПОЙДЕМ ГОРОДСКОЙ, К СТАРОЙ КАРУСЕЛИ»?**

## Ці будзе гэта ў парку?

**Некаторыя (больш буйныя) мерапрыемствы па развіцці, замацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы і добраўпарадкаванні гарадскога парку культуры і адпачынку імя Перамогі на 2001–2005 гг.**

| | Папярэдні кошт | Тэрмін |
|---|---|---|
| 1. Праектаванне і будаўніцтва метадам НАРОДНАГА БУДАЎНІЦТВА (выдзелена "РГ") шматфункцыянальнага двухпавярховага будынка ў зоне атракцыёнаў | 15 000 у. а. + 800 тыс. рублёў | 2001–2003 гг. |
| 2. Праектаванне і ўкладка асфальтавай маршрутнай трасы пад аўтапоезд "Экспрэс-шаша-1" | 500 тыс. за праектаванне + ?? за ўкладку | II-III кв. 2001 г. |
| 3. Набыццё аўтапоезда "Экспрэс-шаша-1" | 22500 у. а. | 2-е паўгоддзе 2001 г. |
| 4. Набыццё атракцыёна "Карусель ланцужковая" (для дарослых) | 19500 у. а. | 2004 г. |
| 5. Набыццё атракцыёна "Кола агляду" | 800 000 у. а. | 2005 г. |
| 6. Устаноўка атракцыёнаў | ??? | |
| 7. Праектаванне і будаўніцтва крытай канцэртнай эстрады | ??? | 2002 г. |

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

## Рэгіянальны літаратурны конкурс

**Рэдакцыя газеты «Шыпшына», заснавальнікам якой з'яўляецца Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ, сумесна з Полацка-Глыбоцкай філіяй СБП праводзяць конкурс беларускай паэзіі і прозы.**

Прымаюцца да ўдзелу таксама і работы аўтараў з Мядзельшчыны, Вілейшчыны, Астравеччыны, Ашмяншчыны да Смаргоншчыны.

Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах: вучні пачатковых школ, сярэдніх школ і дарослыя (не члены літаратурных саюзаў). Трэба даслаць разборлівы рукапіс у трох экземплярах: 3–5 вершаў, ці да 22 старонак прозы. Пераможцаў чакаюць граматы і падарункі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Мядзельскія жанчыны з «Вікторыяй»

**Мядзел. Клуб вольнага часу «Вікторыя» пачаў працаваць пры ГДК.**

Прыходзяць туды жанчыны рознага ўзросту, займаюцца аэробікай.

Надалей плануюцца і сустрэчы з цікавымі людзьмі. Дэвіз клуба «Няма непрыгожых жанчын, ёсць лянівыя». Сваю назву клуб атрымаў з дзвюх прычын. Па-першае, гэткае ж і імя кіраўніка — **Вікторыі Клімовіч**. Па-другое, «Вікторыя» — гэта перамога, а жанчыны імкнуцца перамагчы сябе, свае комплексы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **АДУКАЦЫЯ**

## Пераходзім на новую сістэму адзнак?

**МАЛАДЗЕЧНА. Школы раёна з пачатку чацвертай чвэрці рыхтуюцца да 10-бальнай сістэмы адзнак. Яна існуе ўжо ў Радашковіцкай і Чысцінскай школах.**

Ці будзе афіцыйна дзейнічаць новая сістэма адзнак з наступнага навучальнага года? Гэта вырашыць Міністэрства адукацыі, хутчэй за ўсё, у час летніх канікулаў. Загадчык аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкома Вацлаў Рушлевіч спасылаецца на міністра адукацыі Васіля Стражава, які сказаў, што друкуюцца дзённікі з дзвюма калонкамі для адзнак. Першая — для 5-бальнай сістэмы, другая — да 10-бальнай.

Магчыма, наступны год будзе пераходным ад адной сістэмы адзнак да другой.

А з пачатку красавіка настаўнікі "набіваюць руку" на новых адзнаках. Прыкладам, у Маркаўскай СШ настаўнікі ў журнал ставяць 5-бальныя адзнакі, а ў вучнёўскія сшыткі і дзённікі — 10-бальныя. Каб вучні і бацькі прывыкалі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

| Адзнакі па пяцібальнай сістэме | Адзнакі па пяцібальнай сістэме |
|---|---|
| "3" | "1", "2", "3", "4" |
| "4" | "5", "6", "7" |
| "5" | "8", "9", "10" |

## Вашае стаўленне да суботнікаў?

Пачатак на 1-й стар.



**Таццяна Мішчук, галоўны бухгалтар аддзела па фізкультуры, спорце і турызме гарвыканкома:**

— Прыбраць за сабою смецце заўсёды карысна. Але навошта за гэта яшчэ і грошы вылічваць?



**Віталь Лацукевіч, навучэнец гандлёва-эканамічнага тэхнікума:**

— Суботнікі трэба праводзіць рэгулярна. Каб чысціня была, прыкладам, не толькі вакол нашага каледжа, але і паўсюль у горадзе.

**Вера Бахметава, дворнік:**

— Дзе ж адзін дворнік зможа ўсё прыбраць? Людзі не паважаюць працу дворнікаў. Толькі прыбярэш — і адразу зноў насмецяць. Суботнікі карысныя.



**Фотаапытанне падрыхтаваў Яўген СТЭЛЬМАХ.**

■ **ІМЯНІНЫ**

**13 красавіка**
Праваслаўныя: **Апалонія, Веньяміна, Інакенція, Іоны, Іпата.**
Каталіцкія: **Марціна, Пшыбыслава, Пшэмыслава.**

**14 красавіка**
Праваслаўныя: **Марыі, Абрама, Яфіма.**
Каталіцкія: **Людвіны, Юстыны, Валяр'яна, Лямберта.**

**15 красавіка**
**Вялікдзень.**

**16 красавіка**
Праваслаўныя: **Фядосі, Мікіты.**
Каталіцкія: **Марыі, Юліі.**

**17 красавіка**
Праваслаўныя: **Георгія, Засімы, Іосіфа.**
Каталіцкія: **Роберта, Рудольфа, Сцяпана.**

**18 красавіка**
Праваслаўныя: **Фядоры, Марка, Платона, Палікарпа.**
Каталіцкія: **Аліцыі, Апалонія, Багуслава.**

**19 красавіка**
Праваслаўныя: **Ерамея, Мяфодзія, Яўціхія.**
Каталіцкія: **Адольфа, Лявона, Уладзіміра.**

■ **ДНІ**



15 красавіка — **Вялікдзень.**

16 красавіка — 1956 — **заснаванне ў Мінску Літаратурнага музея Я. Коласа** (адкрыты 04.12.1959 г.).

18 красавіка — **Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных месцаў.**

19 красавіка — **120 год з дня нараджэння В. Воўкава** (1881–1964), **беларускага жывапісца, народнага мастака Беларусі. 120 год з дня нараджэння У. Ігнатоўскага** (1881–1931), беларускага гісторыка і грамадскага дзеяча.

■ МЕРКАВАННЕ

# Рынак у бетонным мяшку

**ВІЛЕЙКА. У горадзе прадпрымальнікі на працягу дзесяці год змагаюцца за сваё выжыванне.**

У шэрагу службовых асоб рознага рангу стасункі да прадпрымальнікаў негатыўныя. Яшчэ ўстойлівыя стэрэатыпы мыслення, што засталіся з савецкіх часоў да прыватнага бізнесу. Прадпрымальнікаў часта ўзнагароджваюць рознымі эпітэтамі: спекулянты, хапугі, рвачы, ворагі народу, барыгі, вашывыя блохі...

Але яны ўносяць значны ўклад у эканамічнае развіццё Вілейшчыны. Маглі б уносіць і больш, калі б для іх былі створаныя нармальныя ўмовы работы. Асноўная маса прадпрымальнікаў займаецца дробным бізнесам. Пяць год яны гандлявалі на цэнтральнай плошчы Вілейкі. Месца гандлю задавальняла ўсіх без выключэння.

Прадпрымальнікам з любога боку можна было пад'ехаць у любы час для выгрузкі і пагрузкі тавараў. Побач, у полі зроку, знаходзілася аўтастаянка. Свабодна маглі наведваць рынак гандляры, што прыязджалі з іншых месцаў, а таксама грамадзяне, якія праязджалі праз Вілейку. Гандаль ішоў бойка, і ў бюджэт раёна штодзённа паступалі жывыя грошы ад платы за арэнду гандлёвых месцаў і за арэнду аўтастаянак. Рэалізацыя тавараў была на высокім узроўні, ад якой, у выглядзе падатку, таксама ішло напаўненне бюджэту раёна.

Задавальняла месца рынку і пакупнікоў. На плошчы спыняліся аўтобусы ўсіх маршрутаў. Нават тыя, хто збіраўся праехаць міма, выходзілі з аўтобуса і наведвалі рынак, каб набыць штосьці з рэчаў або прадуктаў харчавання.

Прадпрымальнікі сцвярджаюць, што дабрабыт і працвітанне рынку працягвалася да таго часу, пакуль у горад не заехаў старшыня абласной вертыкалі **Мікалай Дамашкевіч** і не распарадзіўся перанесці рынак у іншае месца. Мясцовыя чыноўнікі ўзялі пад казырок. З гэтага часу і пачаліся для прадпрымальнікаў нягоды, цяжкасці і нястачы.

У пошуках месца яны замітусіліся па горадзе, разбіваючы свае палаткі то на вуліцы Партызанскай, то на Савецкай, то яшчэ дзе.

Дырэктар Вілейскага гандлёва-вытворчага прадпрыемства "Садружнасць" **Леанід Нарэйка**, фінансавыя справы якога прыйшлі ў заняпад, размясціў прадпрымальнікаў на ўнутраным гаспадарчым двары "Садружнасці" па вуліцы Савецкай, а каб "вашывыя блохі" не распаўзаліся з-за цеснаты на гаспадарчым двары па тэрыторыі, што прылягае, металічную агароджу гасдвара замянілі на жалезабетонную крапасную сцяну.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Да вілейскага гарадскога парку «прысуседзіўся» базар. Ногі гараджан спляжылі траву, вытапталі зямлю да карэнняў. Парк ператвараецца ў сметнік і праезны двор.**

Калі ні ў шырыню і ні ў глыбіню расшырацца прадпрымальнікам на двары немагчыма, таму што мяшок з'яўляецца не безразмерным і не рызінавым, а жалезабетонным, то "вашывыя блохі" пачалі выпаўзаць з мяшка на вуліцу Савецкую. Яны абляпілі адміністрацыйны будынак "Садружнасці" з усіх бакоў, і той стаў узвышацца крэпасцю ў людскім моры. Запоўнілі і перакрыжаванне вуліц Першамайскай і Савецкай. Тыя прадпрымальнікі, што засталіся ў жалезабетонным мяшку, мясілі разам з пакупнікамі гразь, перамяшаную з тарфакрошкай, хаця "Садружнасць" за аказаныя "паслугі" брала арэндную плату за месца ў поўным аб'ёме, такую ж, як тады, калі рынак знаходзіўся на плошчы.

На патрабаванні прадпрымальнікаў прывесці тэрыторыю ў належны стан Л. Нарэйка, па прынцыпе "спасение утопающих является делом рук самих утопающих", заявіў: Калі хочаце, каб гразь засыпалі, а потым заасфальтавалі, плаціце поўную арэндную плату за два месяцы наперад. Прадпрымальнікі, такім чынам, былі загнаныя ў кут і выканалі патрабаванні.

Гандлёвыя палаткі былі перамясцілі на вуліцу Савецкую, пакуль двор засыпалі камянямі. Праз некалькі дзён для ўтоптвання камянёў прадпрымальнікаў ізноў перасялілі на гаспадарчы двор, дзе яны разам з пакупнікамі займаліся ўтрамбоўваннем камянёў нагамі, спатыкаючыся і лаючыся.

Калі пляцоўку ўтрамбавалі, прадпрымальнікаў ізноў перасялілі на вуліцу Савецкую, і двор заасфальтавалі, але ў будаўнікоў не аказалася нівеліра, каб сплянаваць ухіл тэрыторыі. Часам пляцоўка ператвараецца ў брудную лужыну ад сцёкавых водаў.

Паколькі тэрыторыя рынку пастаянна знаходзіцца ў антысанітарных умовах, прыбіраецца дрэнна, то людзі працуюць летам у брудзе і вадзе, а зімой у снезе і на лёдзе. Пасля неаднаразовых вусных зваротаў прадаставіць звесткі, якая арэндная плата бралася ў 2000 годзе і якая бярэцца ў цяперашні час, з якіх параметраў складаецца арэндная плата, статус рынку, прафсаюз накіраваў пісьмовы запыт.

На неаднаразовыя нагадванні, што трэба даць адказ, Л. Нарэйка заявіў, што звестак па рынку ён не прадаставіць. Больш за тое, ён забараніў такія звесткі, нават у вуснай форме, прадастаўляць сваім падначаленым. Маўляў, гэтыя звесткі камерцыйная тайна. Пры гэтым дадаў: а каму не падабаецца, няхай убіраюцца з майго рынку куды заўгодна.

Пра тое, што Л. Нарэйка забараніў прадастаўляць звесткі па рынку, пацвердзіла і дырэктар рынку **Тамара Корсак**.

Пакупніцкая здольнасць насельніцтва Вілейшчыны падае, у тым ліку, і з-за пастаяннага росту колькасці падаткаў. Іх павелічэнне вядзе да разарэння, у першую чаргу, эканамічна слабых прадпрымальнікаў, а такіх у Вілейцы большасць. Таму, калі не будуць зніжаныя падаткі, не палепшацца ўмовы работы прадпрымальнікаў, ні пра якое развіццё прадпрымальніцкай дзейнасці не можа быць і гаворкі. Адбудзецца поўнае задушэнне прадпрымальніцтва.

Паміж галінамі заканадаўчай і выканаўчай улады Вілейшчыны – райсаветам дэпутатаў і райвыканкомам – адбываецца нейкае спаборніцтва: хто мацней прыдушыць прадпрымальнікаў і хто больш грошай з іх выцісне.

Вілейскі раённы Савет прыняў рашэнне аб асноўным падатку ў памеры 8 мінімальных заработных плат.

1 лютага 2001 года Вілейскі раённы Савет дэпутатаў прымае рашэнне №41 "Аб увядзенні падатку на продаж у рознічнай гандлёвай сетцы ў памеры 5% ад выручкі, атрыманай ад рэалізацыі ў рознічнай сетцы".

Пра прадпрымальнікаў у ім нават не згадваецца, але ў Палажэнні аб падатку на продаж у рознічнай гандлёвай сетцы пасля пералічэння юрыдычных асоб зроблены дадатак: а таксама індывідуальных прадпрымальнікаў. У гэты ж час, у Маладзечне і іншых гарадах гэта робяць дыферэнцыравана.

Узнікае пытанне: ці законнае ўказанае рашэнне і ці мае юрыдычную сілу, калі ў ім нават не згадваецца пра індывідуальных прадпрымальнікаў, а п. 3 абвяшчае: Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб падатку на продаж у рознічнай сетцы гандлёвай на 2001 год. Толькі пасля зняцця ксеракопіі на Палажэнні была зробленая адзнака, што Палажэнне зацверджанае.

**Мікалай МЯЛЕЦ,**
**старшыня вілейскай прафсаюзнай арганізацыі прадпрымальнікаў.**

Заканчэнне ў наступным нумары.

## Прадпрымальнікі пратэстуюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Стыхійна створаная група прадпрымальнікаў звярнулася ў міжрайпракуратуру, гарвыканком і мясцовае аддзяленне Беларускага Хельсінкскага камітэта з заявай-пратэстам.**

Яны не згодныя з рашэннямі гарвыканкома аб правядзенні гарадскіх суботнікаў і аб зборы за гандаль, з пералічэннем адпаведна з рашэннямі, 20000 рублёў на рахунак гарвыканкома і 11400 рублёў на рахунак гарфа.

Прадпрымальнікі лічаць, што такія рашэнні парушаюць палажэнні асноўных законаў, садзейнічаюць абвастрэнню стасункаў паміж імі і мясцовай уладай.

З гарвыканкома ім даслалі ўжо адказ са спасылкамі на нарматыўныя акты і інструкцыі.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## На Смаргоншчыне зніжаецца вытворчасць

**СМАРГОНЬ. Па выніках за 3 месяцы 2001 года зніжаюць вытворчасць некаторыя прамысловыя прадпрыемствы раёна.**

Сольскі завод для сушкі агародніны знізіў аб'ём вытворчасці спажывецкіх тавараў на 38,9%. Прычына – рост цэнаў на энерганосьбіты і цяжкасці ў разліках за сыравіну. Камбінат кааператыўнай прамысловасці знізіў вытворчасць кілбас (на 5 тон) і мяса (на 3 тоны). Асноўная прычына – недахоп сыравіны. Меней кілбас выпускаюць і ў кілбасным цэху камбікормавага завода. Тлумачаць яны гэта падзеннем пакупніцкага попыту.

**Павел МАКЛЮК.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 5 красавіка | 12 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1310,00 руб. | **1313,00** руб. |
| Нямецкая марка | 599,16 руб. | **597,11** руб. |
| Літ | 327,42 руб. | **328,33** руб. |
| Расійскі рубель | 45,38 руб. | **45,48** руб. |
| Злоты | 323,58 руб. | **324,80** руб. |
| ЕЎРА | 1171,86 руб. | **1167,85** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1330 – 1345 руб. | **1330 – 1340** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 4.04 | 11.04 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1980 | **1980** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6490 | **6500** |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | **2100** |
| Селядзец, 1 кг | 1430 | **1430** |
| Рыс, 1 кг | 500 | **500** |
| Грэчка, 1 кг | 480 | **480** |
| Цукар, 1 кг | 570 | **568** |
| Алей, 1 л | 720 | **700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 700 | **750** |
| Маянэз, 200 г | 230 | **230** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | **1500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | **450** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | **380** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 200 | **200** |
| Капуста, 1 кг | 300 | **300** |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | **1250** |
| Апельсіны, 1 кг | 1150 | **1150** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 900 | **900** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Тварог, 1 кг | 900 | **1000** |
| Малако, 1,5 л | 350 | **350** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | **1000** |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | **800** |
| Морква, 1 кг | 350 | **400** |
| Яблыкі, 1 кг | 400 | **500** |

## Магчымыя скарачэнні

**АСТРАВЕЦ. Апошнія тыдні райцэнтр жыве ў чаканні магчымых скарачэнняў на некаторых прадпрыемствах.**

Сярод "ненадзейных", у першую чаргу", называюць мясцовы аўтапарк №4, дзе плануюць скараціць вадзіцеляў аўтамабіляў "МАЗ". Прычына такога кроку хаваецца ў адсутнасці работы для вялікагрузных аўтамабіляў.

Хутчэй за ўсё, не ўдасца пазбегнуць скарачэнняў і на аптовай базе. А вось у ДРБУ-159 мяркуецца скараціць каля 20% работнікаў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Нам гэта пакуль не пагражае

Інфляцыя, або, калі прасцей, рост цэнаў, – біч большасці краін, у тым ліку, і асноўная праблема беларускай эканомікі. Нам пакуль не пагражае зніжэнне цэнаў, з якім ужо каторы год беспаспяхова змагаецца другая па эканамічнай магутнасці дзяржава ў свеце – Японія. Цэны растуць у нас практычна на ўсё – толькі за сакавік яны выраслі больш чым на 3%, асабліва хутка падаражэлі харчовыя тавары і паслугі.

Прэзідэнт катэгарычна забараніў ураду з красавіка павышаць цэны больш чым на 0,5% у месяц. Ім – ураду ды і самім цэнам – застаецца толькі падпарадкоўвацца. Аднак хутчэй давядзецца выбіраць: або высокія цэны і наяўнасць тавараў, або нізкія цэны і звыклы ў старыя часы дэфіцыт практычна усяго. Дарэчы, забараняць падымаць цэны, быццам бы, і не трэба, яны і так ужо знаходзяцца на даволі высокім узроўні, які не дазваляе грамадзянам дазволіць сабе нармальна жыць.

На валютным рынку назіраецца нязвыклая сітуацыя: долараў поўна і ніхто за імі ўжо асабліва і не палюе. На рынку адбыўся нават адкат курсу – ад 1350 да 1325 рублёў за долар. Аднак далейшае ўмацаванне беларускага рубля нам не пагражае: пасля выплаты ў красавіку сакавіцкай павялічанай заработнай платы попыт на валюту можа рэзка ўзрасці. Пакуль ураду і Нацыянальнаму банку цалкам удаецца ўтрымліваць прадугледжаныя праграмай развіцця арыенціры – афіцыйны курс Нацыянальнага банка на 1 мая – 1345 рублёў і на 1 студзеня наступнага года – 1621 рубель. Нагадаем, што курсы долара ў абменных пунктах не павінны адрозніваца ад афіцыйных больш, як на 3%. Такім чынам, да мая купіць долар мы зможам па плане не даражэй, чым за 1400 рублёў. Гэта цярпіма.

Пра стаўкі. Практычна ўсе банкі працягваюць зніжаць стаўкі прыцягнення сродкаў грамадзян. Гэта не самае мудрае рашэнне, але з ім даводзіцца змірыцца – банкі шчыра і прама заяўляюць, што больш выплачваць грамадзянам не могуць. Тым больш, што пакуль яшчэ даход па працэнтах на рублёвых укладах і дэпазітах у банках перавышае страты ад інфляцыі і росту курсу долара. Калі ж улічыць, што рост цэнаў і курсу валюты ўсімі сіламі ўладаў будуць стрымлівацца, то ўклады працягваюць заставацца выгаднымі. Па крайняй меры, да лета. Але трэба разумець, што атрымаць вельмі вялікія даходы ўжо не пагражае.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## «Праваабарончы цэнтр» не патрэбны?

**СМАРГОНЬ. Гродзенскі абласны суд адмовіў у рэгістрацыі смаргонскаму аб'яднанню «Праваабарончы цэнтр».**

Рада аб'яднання «Праваабарончы цэнтр» яшчэ ў верасні 2000 года аддала ў Гродзенскае абласное ўпраўленне юстыцыі ўсе неабходныя для рэгістрацыі дакументы. А калі 16 лютага ўпраўленне юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі, сябры аб'яднання абскардзілі гэтае рашэнне ў абласным судзе.

5 красавіка суд прыняў пастанову не адмяняць рашэнне ўпраўлення юстыцыі. Рада «Праваабарончага цэнтра» мае намер працягваць змаганне за рэгістрацыю свайго аб'яднання – абскардзіць рашэнне ў Вярхоўным судзе краіны.

**Павал МАЖЭЙКА, БелаПАН.**

## БХК звяртаецца ў суд

**МАЛАДЗЕЧНА. Суд Маскоўскага раёна Мінска спыніў вытворчасць па іску Эдварда Баланчука, Аляксея Хвосціка і Беларускага Хельсінкскага камітэта (БХК) да Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў аб фальсіфікацыі вынікаў выбараў у 86-й Маладзечанскай акрузе.**

Суддзя **Юрый Шастакоў** адкінуў хадайніцтвы БХК, у тым ліку пра няпраўнасць самой Цэнтральнай выбарчай камісіі. Суддзя заявіў, што пытанне, узнятае ў іску БХК, яму непадсуднае.

Ён абгрунтаваў сваё рашэнне тым, што яно непадведамаснае раённаму суду, хаця раней суддзя прыняў справу да разгляду і па хадайніцтве БХК запатрабаваў ад ЦВК акты, якія маюць дачыненне да справы. Аднак ЦВК гэтыя акты не прадставіў, а яго прадстаўнікі на пасяджэнне суда не з'явіліся.

Яшчэ з восені 2000 года БХК спрабуе аспрэчыць у судах законнасць правядзення выбараў па 86-й Маладзечанскай выбарчай акрузе, у якой былі зафіксаваныя шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства. Пракуратура расследавала справу аб фальсіфікацыі выбараў і зрабіла выснову, што парушэнні былі, але нязначныя.

Як заявіў БелаПАН намеснік старшыні БХК **Гары Паганяйла**, праваабаронцы наважаныя перадаць матэрыялы аб фальсіфікацыях на выбарах у Камітэт па правах чалавека ААН.

Прадстаўнікі БХК будуць звяртацца таксама ў Канстытуцыйны суд.

**Эдвард БАЛАНЧУК, старшыня маладзечанскага аддзялення РГА БХК.**

## Геаэкалагічны стан горада Маладзечна і наваколіц.

**Працяг.**

Негатыўна на развіцці горада адбіліся І сусветная вайна і польская акупацыя, аднак Маладзечна працягваў развівацца. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў горадзе зноў назіраецца актыўнае развіццё інфраструктуры. Ён пачынае развівацца як малы горад і арыентуецца на мясцовыя рэсурсы. У гэты час пачынаюць праяўляцца накірункі яго далейшага развіцця, а насельніцтва ў 1940 годзе налічваюць 6000 жыхароў. Вялікая Айчынная вайна зноў перапыніла гэты працэс, аднак пасля вызвалення ў 1944 годзе, як буйны чыгуначны вузел, у верасні Маладзечна становіцца абласным цэнтрам. Пачынаецца актыўнае ўзнаўленне прадпрыемстваў і жылога фонду. Уводзяцца ў строй новыя прамысловыя магутнасці. Дзякуючы выхаду за межы гістарычнай забудовы, Маладзечна атрымаў даволі арыгінальную горадабудаўнічую перспектыву, на якую вялікую ўвагу аказала размяшчэнне новых прамысловых аб'ектаў. Стары жылы масіў быў пакінуты амаль без змяненняў, за выключэннем паднаўлення часткі старых вуліц. Вылучылася і новая арганізацыя самой структуры горада. План быў кардынальна перагледжаны. Фарміруецца прамавугольная сетка вуліц, а стары цэнтр Маладзечна (сучасная плошча Старое Места) саступіў лідэрства плошчы Цэнтральная. Віленская вуліца прайшла праз поле каля Лысай гары, утварыўшы новую магістраль – Вялікі Гасцінец, які выразаў за горадам нязручную для транспарту дугу і зліўся за горадам са старой дарогай. У выніку ён стаў часткай аўтамбільнай дарогі на Вільнюс і разам з вуліцай Віленскай набыў статус асноўных планіровачных восяў. Выразна акрэсліўся жылы мікраёэн уздоўж вуліц Вялікі Гасцінец, Прытыцкага, Б. Хмяльніцкага. Па гэтай прычыне далейшае размяшчэнне прамысловасці ішло ў раёне Зялёнага Гарадка, на паўднёва-заходнім напрамку. У выніку такога пашырэння горада, ён выйшаў на тэрыторыю ўзгоркава-хвалістай марэннай раўніны з камавымі і марэннымі ўзгоркамі — трэцяй групы краявідаў, на якіх фарміравалася гарадская забудова Маладзечна.

У 1960 годзе, згодна з новым адміністрацыйным падзелам, Маладзечна пераводзіцца ў ранг раённага цэнтра. Рабілася ўсё для таго, каб невялікі па сваіх маштабах горад развіваўся. У 1962 годзе насельніцтва Маладзечна перавысіла колькасць 26000 чалавек. Па прычыне скарыстанасці мясцовых рэсурсаў развіцця, горад актыўна пашырае знешнія сувязі: паскоранымі тэмпамі ідзе індустрыяльнае развіццё, а магутнасці, што ўводзяцца, арыентуюцца на дапаўненне вытворчага комплексу Мінска. У выніку Маладзечна канчаткова пераходзіць у ранг сярэдняга горада. Гарадская геаэкасістэма набывае завершаныя рысы і ў наступным кардынальных змен у яе планіроўцы не назіраецца.

Патрэбна адзначыць, што для Маладзечна, як для сярэдняга горада, харктэрная унікальная дэмаграфічная сітуацыя. Калі да 60-х гадоў XX стагоддзя колькасць насельніцтва расла даволі нізкімі тэмпамі, то ўжо з 1959 года назіраецца актыўны яго рост. Гэта было выклікана як агульнымі тэндэнцыямі ў сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі, – павелічэнне тэмпаў агульнага сацыяльна-эканамічнага развіцця ў пасляваенныя гады, павелічэнне патрэбнасці ў працоўных рэсурсах пры скарачэнні іх рэзерваў, агульнымі тэндэнцыямі роста гарадоў і паляпшэння ўзроўню жыцця і матэрыяльнага дабрабыту. У выніку ў Маладзечне ўтварыўся магутны цэнтр прыцягвання насельніцтва ў горад як з прылягаючых тэрыторый, так і з суседніх раёнаў, дзе назіралася менш хуткае развіццё. Такім чынам, пасляваеннае насельніцтва было сфарміравана за кошт міграцыі ў горад сельскага насельніцтва.

У далейшым г. Маладзечна захаваў тэндэнцыі горада з насельніцтвам, якое вельмі хутка расце, што было звязана з развіццём прамысловасці і будаўніцтвам новых буйных прамысловых прадпрыемстваў, якія патрабавалі вялікіх працоўных рэсурсаў. Немалую роль адыгрывае ў гэты час развіццё чыгуначнага вузла і звязаных з ім вытворчасцяў.

З 1990 года насельніцтва Маладзечна набывае іншую дынаміку. Гэта было цесна звязана з канчатковым афармленнем прамысловай інфраструктуры горада і распадам СССР, нарушэннем адпрацаваных сувязяў. У выніку сальда міграцыі стала блізкім да нуля, і змяненне насельніцтва стала адбывацца за кошт натуральнага прыросту. У далейшым гэтая тэндэнцыя была захаваная. Аднак, параўнальна з іншымі сярэднімі гарадамі, Маладзечна не меў спаду колькасці насельніцтва адносна 1997 года – колькасць яго заставалася стабільным. Усе іншыя сярэднія гарады неслі адчувальныя страты.

Патрэбна адзначыць, што даволі добрая дэмаграфічная сітуацыя склалася і ў Маладзечанкім раёне. Ён адносіцца да сярэдніх як па плошчы, так і па колькасці насельніцтва і належыць да ліку так званых раёнаў-эталонаў. Яны не маюць празмернай шчыльнасці насельніцтва, ёсць добры баланс працоўных рэсурсаў, прапарцыянальныя суадносіны паміж класамі населеных пунктаў. У выніку ў рэгіёне назіраецца даволі стабільная дэмографа-экалагічная сітуацыя, якая патрабуе падтрымкі існуючых колькасцяў і прапорцый насельніцтва на сённяшнім узроўні.

**Працяг будзе.**

**Вадзім Зубрыцкі, студэнт 4 курса геафака БДУ, сапраўдны член Беларускага Геаграфічнага таварыства.**




## Спецыяліст раіць верыць каляндару

**Заканчэнне**

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась спецыялісты Мінскай аблдзяржсортстанцыі пры гаспадарчых работах улічвалі каляндар спрыяльных дзён. Загадчык гародніннага сортаўчастка Валянціна Пахомчык сведчыць, што ўраджай летась быў добры. Станцыя праводзіць выпрабаванні як вядомых, так і новых сартоў сельскагаспадарчых культур.**
**Зробім агляд лепшых сартоў, якія летась вытрымалі выпрабаванні.**

| Назва сорту | Тэрмін выспявання | Ураджайнасць, ц/га | Тэрмін уборкі (месяц) | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| **Таматы** | | | | |
| Ляна | ранні | 323 | сярэдзіна 07 | Устойлівыя да хвароб, можна кансерваваць |
| Зорка | ранні | 368 | сярэдзіна 07 | Сярэдняя ўстойлівасць для хвароб |
| Ранні 310 | ранні | 380 | сярэдзіна 07 | Слабая ўстойлівасць да хвароб |
| Салярыс | позні | 314 | канец 07 | Сярэдняя ўстойлівасць да хвароб |
| Персей | позні | 410 | канец 07 | Буйныя плады |
| **Чырвонакачанная і цвятная капуста** | | | | |
| Радзіма | сярэдняя | 656 | канец 09 | Добра захоўваецца 6 мес. |
| Астэрыкс | ранняя | 232 | пачатак 07 | Выдатныя смакавыя якасці |
| Цэлеста | ранняя | 250 | пачатак 07 | Выдатныя смакавыя якасці |
| **Кукуруза цукровая** | | | | |
| Парумбень 200 | сярэдняя | 117 | канец 08 | Можна кансерваваць |
| Парумбень 399 | сярэдняя | 138,9 | канец 08 | Можна кансерваваць |
| **Цыбуля рэпчатая** | | | | |
| **Рэкамендацыя**: лепш высяваць цыбулю з "чарнушкі" (чорнага маленькага насення), чым з сеянкі. Канчатковы вынік будзе за 1 год (калі з сеянкі – за 2 гады). Ды некаторыя віды сяўка дрэнна захоўваюцца. Ураджайнасць аднагадовай культуры вышэйшая. | | | | |
| Ветразь | ранні | 354 | пачатак 09 | – |
| Крывіцкі ружовы | ранні | 341 | пачатак 09 | Фіялетавай афарбоўкі, салодкі сорт, добра захоўваецца |
| Чарняхоўская | сярэдні | 459 | сярэдзіна 09 | Вялікія цыбуліны (да 600 г) |
| Дурка $F_1$ | позні | 630 | канец 09 | – |
| **Морква** | | | | |
| У залежнасці ад мэтаў, тэрмін уборкі можа быць розны: калі вы збіраецеся захоўваць – кастрычнік, калі не – жнівень. | | | | |
| Карлена | сярэдні | 1268 | 08–10 | |
| Мара (Лявоніха) | сярэдні | 984 | 08–10 | Добра захоўваецца |
| Арыста $F_1$ | ранні | 1340 | 08–10 | Добра захоўваецца |
| Магна $F_1$ | ранні | 1377 | 08–10 | Добра захоўваецца |
| **Буракі сталовыя** | | | | |
| Прыгажуня | сярэдні | 917 | 10 | Плады авальнай формы |
| Апольскі | сярэдні | 954 | 10 | Плады цыліндрычнай формы |
| Дэтройт | сярэдні | 980 | 10 | Выдатныя смакавыя якасці |
| **Радыс** | | | | |
| Ізабэла | сярэдні | 168 | пачатак 06 | – |
| Родас | ранні | 139 | пачатак 06 | – |
| **Гарох** | | | | |
| Адагумскі | позні | 112 | пачатак 07 | – |
| Пегас | ранні | 145 | канец 06 | – |
| **Фасоля** | | | | |
| Заранaчка | ранні | 199 | сярэдзіна 07 | – |
| Рант | ранні | 224 | пачатак 07 | – |
| Секунда | ранні | 198 | пачатак 07 | – |
| **Кабачкі** | | | | |
| Адая $F_1$ | ранні | 1453 | сярэдзіна 07 | Устойлівы да хвароб |
| Хелена | ранні | 1134 | сярэдзіна 07 | Плод жоўтай афарбоўкі |
| **Салодкі перац** | | | | |
| Ураджайнасць вызначаецца ў кг/м² | | | | |
| Асілак | сярэдні | 4 | | Буйныя плады |
| Залацісты | позні | 4 | | Плады жоўтага колеру, буйныя |
| Тройка | позні | 4,6 | | – |

**Заўвага спецыяліста.**

– Не купляйце насенне на рынку, – гаворыць **Валянціна Пахомчык**. – Якаснае насенне прадаецца толькі ў спецыялізаваных магазінах ці ў людзей, якія гандлююць ад фірмы напрамую.

Калі ў вас ёсць выбар, лепш купляць насенне замежнай вытворчасці, бо яно больш якаснае. Хаця, звычайна, і больш дарагое.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

